# Майстры мастацтваў БССР, узнагароджаныя ордэнамі Леніна:



народны артыст БССР В. І. Уладамірскі, пісьменнік-драматург К. К. Крапіва, народная арт. СССР Л. П. Александроўская, народны артыст БССР Г. П. Глебаў.

Хор Мінскай музыкальнай школы разам з аркестрам выконвае песні на заключным канцэрце дэкады беларускага мастацтва ў Маскве.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЧЭРВЕНЬ—ЛІПЕНЬ 1940 г. № 6—7

# ВАСІЛЬКІ

*Эдзі Агняцвет*  *Рыс. М. Свяцкага*

Добры дзень, палі, прасторы
І шумлівы гай!
Добры дзень, калоссяў мора,
Птушак звонкі край!

Будзем мыцца мы ў крыніцы,
Загараць з табой.
А за тое лепш вучыцца
Будзем мы зімой.

Льецца рэчка,
граюць хвалі
І не знаюць сноў.
Грайце, хвалі,
мы-ж спаймалі
Быстрых акунёў.

Глянь навокал!
незабудкі
Ўсталі тут
І там.
„Падрастайце, дзеці, хутка“,—
кажуць кветкі нам.

Зелянее голкай колкай
Елка без клапот.
Па цябе прыедзем, елка,
Мы на новы год.

Будзеш ты у нашай школе
Аганькамі ззяць.
Будзем лагер
мы ў вясёлай
Песні ўспамінаць!



# ДЭКАДА БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА



Опера „У пушчах Палесся" (Дрыгва) музыка А. В. Багатырова. Сцэна з чацвертага акта. Партызанскі атрад дае клятву ў цела забітага белапалякамі Андрэя адпомсціць за таварыша.



Опера „У пушчах Палесся" (Дрыгва) музыка А. В. Багатырова. Сцэна першага акта (злева направа): дзед Тарас, сялянскія дзэці і Кузьміч (пераапрануты камісар партызанскага атрада).

Многія з вас, рэбяты, ужо напэўна чулі пра дэкаду беларускага мастацтва ў Маскве. Дэкада пачалася 5 чэрвеня і закончылася 15 чэрвеня.

Гэта былі самыя радасныя дні ў жыцці беларускага народа. Гэта вялікая і радасная дэманстрацыя росквіту беларускага мастацтва, якое ўзышло і закрасавала пад залатымі праменнямі сталінскага сонца.

Дэкада беларускага мастацтва паказала, як за годы савецкай улады з народных нізін узняліся і выраслі ў нашай рэспубліцы таленавітыя артысты, пісьменнікі, паэты, драматургі, музыканты. У пастаноўках, канцэртах, выстаўках, у часе дэкады масквічы шчыра палюбілі чароўную музыку беларускага народа, палюбілі выдатныя танцы, песні, выяўленчае мастацтва. Вельмі горача сустрэт быў масквічамі першы беларускі балет «Салавей». Музыку напісаў беларускі кампазітар Крошнер. Увесь балет пабудаван на народных песнях, складаецца з нашага беларускага народнага мастацтва, расказвае аб мінулым жыцці беларускага народа.

...Вясна. Пяюць птушкі. Зелянеюць дрэвы. Хоць нявесела на сэрцы ў бедных людзей, але яны радуюцца прыходу вясны. Малады пастух Салавей танцуе з дзецьмі на лужку. Ім хочацца крыху павесяліцца, адагнаць ад сябе смутак. Але прыходзяць панскія гайдукі і па загаду пана самых прыгожых дзяўчат забіраюць у панскі палац на здзекі і забавы панскія. Не было тады справядлівасці на зямлі, не соладка беднаму чалавеку жылося.

Пра такое-ж сумнае жыццё расказваецца ў беларускай оперы «Кветка шчасця», якая была паказана на дэкадзе. Музыку оперы напісаў беларускі кампазітар Туранкоў. Опера пабудавана на народ-



най легендзе, як людзі стагоддзямі шукалі кветку шчасця. Але іх заўсёды сустракала торба жабрака, доля горкая. І толькі пры савецкай уладзе, вызваліўшыся з-пад панскіх ланцугоў, свабодны народ знайшоў сваю кветку шчасця, знайшоў сваю долю ясную.

Апрача гэтага на дэкадзе, у пастаноўках Вялікага тэатра оперы і балета былі паказаны оперы: «Міхась Падгорны» і «У пушчах Палесся». У пастаноўцы Першага дзяржаўнага драматычнага тэатра паказаны п'есы: «Хто смяецца апошнім», «Партызаны»—драматурга Кандрата Крапівы, «Пагібель воўка»—пісьменніка Эдуарда Самуйлёнка, «Апошнія»—вялікага пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага.

Партыя і ўрад высока ацанілі дасягненні нашай рэспубліцы ў развіцці мастацтва. Вялікі тэатр оперы і балета ўзнагароджан ордэнам Леніна, Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр і Беларуская дзяржаўная філармонія ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга; ордэнамі і медалямі Саюза ССР узнагароджаны 152 работнікі беларускага мастацтва.

Народныя артысты БССР Владамірскі, Глебаў і драматург Кандрат Крапіва, партрэты якіх надрукаваны тут на вокладках, узнагароджаны ордэнамі Леніна. Народнай артыстцы БССР Александроўскай прысвоена званне народнай артысткі СССР і таксама ўзнагароджана ордэнам Леніна.

Усе ўдзельнікі дэкады былі на прыёме ў Крэмлі. Вялікі друг беларускага народа, наш родны Сталін ветліва прынімаў беларускіх артыстаў і прысутнічаў на дэкадных спектаклях. Дзеці-вучні мінскай музыкальнай школы і балетнай групы тэатральнага вучылішча ў заключным канцэрце на дэкадзе праспявалі песню:

Мы роднаму Сталіну ў песні
Любоў і падзяку прынеслі
З палёў беларускай зямлі.
І ясныя зоры,
І чыстыя росы
У гэтую песню ўплялі.



П'еса „Пагібель воўка" Э. Самуйлёнка.



П'еса „Пагібель воўка" Э. Самуйлёнка.



Зводны танцавальны калектыў Хойніцкай МТС, лестрангаса „Праца" і соўгаса „Перамога соцыялізма" Хойніцкага раёна.




# Сарочыя яйкі

А. ЯКІМОВІЧ

*Рысункі М. БЕЛЕНІЦКАГА*

Косця неяк з першых-жа дзён свайго жыцця ў лагеры моцна пасябраваў з дзедам Анупрэем.

Дзед Анупрэй уночы вартуе лагер, раніцай спіць у сваім дзяжурным шалашы ў парку, а ўдзень ён як-бы беспрацоўны. Праўда, не зусім яно так: дзед не любіць сядзець склаўшы рукі, не такая ў яго натура. Дзед Анупрэй заўсёды і ўсюды знойдзе сабе работу: то ён абкашвае траву вакол лагера, то ладзіць і даглядае лагерную гаспадарку, то кош пляце, то, нарэшце, апавядае піянерам байкі. А калі ўжо, бывае, няма ніякай работы—дзед, кульгаючы на крывую левую нагу, абыйдзе за дзень усю ваколіцу. З тым-сім сустрэнецца па дарозе, пагутарыць і, глядзіш,—усе навіны вядомы дзеду.

Пры школе ў дзеда ёсць свой пакойчык: ён тут сторажам працуе. Але ўлетку дзед туды рэдка і заглядвае. Цяпер ён таксама жыве па-лагернаму—на свежым паветры, дзе і мухі не кусаюць і дыхаецца лягчэй старым грудзям. Сям'і ў дзеда Анупрэя няма. Старая яго ўжо гадоў дзесяць як памерла, а дзеці, як ён кажа, рассыпаліся па ўсім свеце.

Косця вельмі любіў слухаць дзедавы байкі—так дзед сам называў адным словам свае казкі, байкі і апавяданні. Дзе-б што ні рабіў дзед, там і Косця каля яго. І трэба сказаць, дзеду такі шчыры слухач дужа падабаўся. Да таго-ж дзед быў чалавек гаваркі, і калі ўжо не было каму слухаць яго,—дзед гутарыў сам з сабою.

Аднаго разу дзед надраў у бары сасновых каранёў і пачаў плесці кош. Косця прысеў каля дзеда. Ён ніколі не бачыў, як плятуць кашы, і таму ўважліва сачыў за дзедавай работай.

— Памог-бы вот, але-ж не ўмееш,—жартаваў дзед.—У горадзе кашоў не плятуць, мусіць?

Косця прамаўчаў усміхаючыся. Дзед, канешне, ведае, што ў горадзе кашоў не плятуць, але яму проста гаварыць хочацца. Косця ўжо вывучыў дзедаву натуру.

— Хаця, чакай,—сказаў дзед,—дам табе, галубок ты мой, работу. Збегай на кухню па нож.

Косця рад быў выканаць дзедава даручэнне. Ён мігам паімчаўся на кухню, і праз хвіліну вярнуўся назад з нажом.

— Ну, вот, цяпер будзеш памагаць.

— Я-ж не ўмею,—сарамліва адгаварваўся Косця, хоць самому і вельмі-б хацелася заняцца такою работаю.

— Не бяда,—супакоіў яго дзед.—Не ўмееш, дык навучышся. Адразу, без навукі, і лапця не сплящеш, не то што кош.

Дзед выбраў гладкі корань і даў яго Косцю.

— На, ачышчай ад кары.

— І ўсяго?—здзівіўся Косця, узрадаваны такім лёгкім заданнем.

Косця жыва ўзяўся за работу. Але з непрывычкі нож яго чамусьці не слухаўся: ён то лёгка слізгаўся па версе кары, то глыбока ўядаўся ў корань. Дзед, заняты струганнем абручоў, непрыкметна сачыў за Косцевай работай, пасмейваючыся сам сабе ў бараду. Нарэшце, Косця сяк-так ачысціў корань. Дзед узяў у яго корань, пакруціў у руках, паматаў галавою:



— Ды ты ж, галубок ты мой, аскуб яго, як тую курыцу, а не ачысціў! За такую работу ты заслужыў лапу, — вот што я табе скажу.

Косця, вядома, быў нямала сканфужаны дзедавай ацэнкай яго работы, але ён бачыў, што дзед журыць яго так сабе, не па злосці.

— А што гэта, дзед, лапа?—запытаўся Косця.

— Лапы ты не ведаеш? Які-ж ты тады вучань, бацейка ты мой!

— Не,—шчыра прызнаўся Косця.

— А я, галубок ты мой, ведаю, ды яшчэ як! Агні яе няхай высмаляць. Лапа, ну як табе сказаць: лінейка такая дубовая або кляновая. Некалі настаўнікі білі ёю вучняў па далоні, па лапе, значыць. Таму і лапай празвалі. Колькі гэтых лап меў я за зіму, калі вучыўся!

А якая была навука даўней: мука, не навука. Бывала, зубрыш, зубрыш тыя «азы» ды «букі»—не лезуць у галаву, хоць ты іх калом забівай туды. Што мы ні рабілі, каб запамятаць іх, якія спосабы не ўжывалі...

Пры апошніх дзедавых словах Косця настаражыўся. Ён успомніў, што і ў яго з арыфметыкай не ўсё гладка і, можа, дзедавы спосабы маглі-б быць карысны і яму.

— Якія спосабы, дзед, вы ўжывалі?— не без цікавасці запытаўся Косця.

Дзед, прышчурыўшыся, пачухаў бараду і нехаця адказаў:

— Шмат ёсць спосабаў...

— Раскажыце, дзед,—шчыра стаў прасіцца Косця.

— Калі ўжо так цікавішся,—слухай. Перш-на-перш ніколі чытаючы не еш, бо заясі ўрок.

— Ой,які дзіўны спосаб! — зарагатаў Косця. —Вы не жартуеце?

— Табе смешкі. Не верыш?

— Не, дзядуля, ні за што не паверу ў такі спосаб.

— Не верыш— не трэба. Клопат мне вялікі. Другое—ніколі не шый на сабе нічога, бо памяць зашыеш.

Косця паваліўся ад рогату на траву. Ён рагатаў так шчыра і звонка, што дзед сам не стрымаўся і пусціў смех у бараду.

— Ой, дзед Анупрэй, вы яшчэ ніколі так смешна не гаварылі!

— Не верыш—не трэба. Як той кажа: слухаць—слухай, а хлусіць не перашкаджай! Дык вот. А самы лепшы спосаб— піць сарочыя яйкі. Гэта ўжо, кажуць, напэўна памагае памяці.

— Сарочыя?—перапыніў яго Косця.— А чаму не варонія ці курыныя?

— Таму, што сарока птушка разумная, а варона і курыца—дурныя—вот чаму!—напускаючы на сябе цень нездаволенасці слухачом, буркнуў дзед.— Усяму цябе вучыць трэба, варона ты...

— І вы таксама пілі сарочыя яйкі?

— Я ці піў, кажаш?

Дзед зірнуў на сваю крывую нагу, якая абручом выгіналася ніжэй калена, прыцмокнуў і адказаў:

— Не давялося: восы падвялі.

Косця здзіўлена паглядзеў на дзеда. Што з ім сёння сталася? Пры чым-жа тут восы да сарочых яек?

— Ты, можа, і гэтаму не паверыш. Ведаю цябе. Але спярша паслухай. Мне гэта, як сам здаровенек ведаеш, хацелася добра вучыцца, каб не мецъ лап. Спосабы гэтыя мне ўсё-ж не дапамагалі. Я не кажу, што яны нікчэмныя, але не кожнаму, мусіць, падыходзяць. Памятаю, адзін стары нараіў піць сарочыя яйкі. Калі,—кажа,—і сарочыя яйкі не памогуць, дык пішы прапала твая вучоба. Тут я і стаў бегаць у бор, прыглядацца да гнёздаў. Гнёздаў у бары шмат навілі птушкі, а каторае сарочае, каторае варонае—з зямлі не вельмі ўгадаеш. Яйкі сарочыя я ведаў і не памыліўся-б, каб іх убачыў. Яны такія-ж, як і варонbackslash-free іны, толькі зялёныя, з бурымі крапінкамі. Я стаў цікавацъ, якія птушкі ляцяць на гнёзды. Сарокі ў нашым бары вадзіліся—гэта я ведаў.

Доўга я так хадзіў, шукаў, углядаўся і неяк аднаго разу ўсё-ж убачыў сароку на хвоі. І каля гнязда! У мяне аж усё ў сярэдзіне закалацілася.

Лазіць па дрэвах я быў мастак, а тут хвоя нелюдская трапілася: высокая, пад самае неба, і гладзюсенькая, хоць-бы дзе сучок,—так аж да самага верха. Ды нічога не парадзіш, як той кажа: лезу, не адракацца-ж ад свайго шчасця, ад памяці сваёй. Змарыўся, аслабеў, а лезу.

І ўжо траха не да галля дабраўся, дзе гняздо было, як чую—ж-ж-ж!.. і проста ў мяне каля носа. Аглянуўся, бачу—аса! Адна, другая... Ды так і кружацца. Бацейкі вы мае! Адкуль іх ліха нанесла? (Потым я даведаўся, што тут побач у дупле старой хвоі было іхняе гняздо, і яны, дурныя стварэнні, падумалі, мабыць, што я да іх лезу). Не паспеў я і вокам міргнуць, як адна аса пеканула мяне проста ў брыву. Ай-ай!—заенчыў я, хапаючыся рукою за ўджаленае месца. Другая рука тым часам сарвалася, і я каменем грымнуўся вобземлю...

Ну, вот з таго часу і нашу памяць аб сарочых яйках,—паказаў дзед на сваю крывую нагу.—Гэта то ўжо я запамятаў на век, галубок ты мой.

Дзед раптам спахмурнеў і задумаўся. Відаць было, што яшчэ і цяпер ён балюча перажывае бяду-прыгоду, якая здарылася з ім некалькі дзесяткаў год таму назад.

Косця таксама быў засмучан: яму шкада стала дзеда Анупрэя, добрага, вясёлага дзеда, які так недарэчна стаў калекай.

— А пасля гэтага вы яшчэ вучыліся?—запытаўся ён, калі дзед скончыў сваю байку.

— Болей ці вучыўся, кажаш? Не! Хапіла і тае граматы. Ды яно мала хто тады ў нас і канчаў школу. Падняўся трохі на ногі—ну і пайшоў пракладаць бацькавы сцежкі-дарогі. Гэта вам, галубок ты мой, цяпер выгода: вучыся, колькі хочаш, абы брала ахвота,—сказаў дзед і дадаў уздыхнуўшы:—Эх, каб я грамату знаў, байкі-б пісаў! Бывае, часамі, сам сабе такое прыдумаю, што і ў кніжках не знойдзеш, але забываюся потым. Не тыя гады—не тая і памяць. Цяпер мне і сарочыя яйкі, мабыць, не памогуць.

У лагеры зайграў гарніст на вячэру. Косця развітаўся з дзедам і пабег у сталовую з думкамі аб тым, што расказаў яму дзед пра сваю бясслаўную вучобу.





# Пагроза

АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

Рыс. А. АСТАПОВІЧА

Па небу, вялізарнай шыры,
Мінаючы бор і палі,
На поўдзень ляцелі ў вырай
З аседжаных гнёзд жураўлі.

Чамусьці здавалася—лета
І цёплага верасня дні
На крыллях, што сонцам сагрэты,
Панеслі далёка яны.

Ужо над ракою курлычуць
У сэрцы раджаючы сум,
З сабой яны хлопчыка клічуць,—
На крыллях з сабой панясуць.

І недзе далёка, далёка
Ён будзе за морам гасціць,
І разам ён з імі высока,
Да сонца, да зор даляціць...

Яны-ж паляцелі па небе
І хлопца з сабой не ўзялі.
Казалі:
— Не трэба, не трэба,
Ты лепей хадзі па зямлі.

— Чакайце-ж, як вырасту,—хлопец
Услед закрычаў журавам,—
Тады вам і я ў самалёце
Па небу праехаць не дам.



# Каза ў арэхах

НАРОДНАЯ КАЗКА Ў АПРАЦОЎЦЫ
Я. КОЛАСА.

*Рыс. Бар. СРЭЦЕНСКАГА*

Пайшоў казёл з казою арэхі збіраць. Казёл шчыпле арэхі, каза падбірае. Нашчыпалі тры мяхі, а чацверты шалухі.

— Ну, каза, дамоў пойдзем.

— Не пайду,—кажа каза.

Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакай-жа, каза, нашлю я на цябе ваўкоў... Ваўкі, ваўкі, ідзіце казу есці!

Не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакайце-ж, ваўкі, нашлю я на вас мядзведзя... Мядзведзь, мядзведзь, ідзі ваўкоў душыць!

Не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, ваўкі не ідуць казу есці; няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакай-жа, мядзведзь, нашлю я на цябе стральцоў... Стральцы, стральцы, ідзеце мядзведзя біць!

Не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, ваўкі не ідуць казу есці· Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакайце-ж, стральцы, нашлю я на вас вяроўкі... Вяроўкі, вяроўкі, ідзеце стральцоў вязаць!

Не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакайце-ж, вяроўкі, нашлю я на вас агонь... Агонь, агонь, ідзі вяроўкі паліць!

Не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакай-жа, агонь, нашлю я на цябе ваду... Вада, вада, ідзі агонь тушыць!

Не ідзе вада агонь тушыць, не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакай-жа, вада, нашлю я на цябе валоў... Валы, валы, ідзеце ваду піць!

Не ідуць валы ваду піць, не ідзе вада агонь тушыць, не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пачакайце-ж, валы, нашлю я на вас доўбняў... Доўбні, доўбні, ідзіце валоў глушыць!

Не ідуць доўбні валоў глушыць, не ідуць валы ваду піць, не ідзе вада агонь тушыць, не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пастойце-ж, доўбні, нашлю я на вас тапароў... Тапары, тапары, ідзеце доўбні сеч!

Не ідуць тапары доўбні сеч, не ідуць доўбні валоў глушыць, не ідуць валы ваду піць, не ідзе вада агонь тушыць, не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пастойце-ж, тапары, нашлю я на вас камянёў... Камяні, камяні, ідзеце тапары тупіць!

Не ідуць камяні тапароў тупіць, не ідуць тапары доўбні сеч, не ідуць доўбні валоў глушыць, не ідуць валы ваду піць, не ідзе вада агонь тушыць, не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пастойце-ж, камяні, нашлю я на вас чарвей... Чэрві, чэрві, ідзеце камяні тачыць!

Не ідуць чэрві камяні тачыць, не ідуць камяні тапары тупіць, не ідуць тапары доўбні сеч, не ідуць доўбні валоў глушыць, не ідуць валы ваду піць, не ідзе вада агонь тушыць, не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пастой-жа, чэрві, нашлю я на вас курэй... Куры, куры, ідзеце чарвей дзяўбаць!

Не ідуць куры чарвей дзяўбаць, не ідуць чэрві камяні тачыць, не ідуць камяні тапары тупіць, не ідуць тапары доўбні сеч,



не ідуць доўбні валоў глушыць, не ідуць валы ваду піць, не ідзе вада агонь тушыць, не ідзе агонь вяроўкі паліць, не ідуць вяроўкі стральцоў вязаць, не ідуць стральцы мядзведзя біць, не ідзе мядзведзь ваўкоў душыць, не ідуць ваўкі казу есці. Няма казы з арэхамі, не ідзе каза дамоў.

— Пастойце-ж, куры, нашлю я на вас каршуна... Каршун, каршун, ідзі курэй драць!

Пайшоў каршун курэй драць, пайшлі куры чарвей дзяўбаць, пайшлі чэрві камяні тачыць, пайшлі камяні тапары тупіць, пайшлі тапары доўбні сеч, пайшлі доўбні валоў глушыць, пайшлі валы ваду піць, пайшла вада агонь тушыць, пайшоў агонь вяроўкі паліць, пайшлі вяроўкі стральцоў вязаць, пайшлі стральцы мядзведзя біць, пайшоў мядзведзь ваўкоў душыць, пайшлі ваўкі казу есці.

Ёсць каза з арэхамі, прышла каза дамоў.



# Кавалак гарбуза



Р. БРОХЕС

*Рысункі ШЭЎЧЭНКІ*

На дварэ валяўся аб'едзены кавалак гарбуза. Валяўся крыху ў баку, за лесніцай. Але чорная курыца яго ўбачыла; яна шукае сабе харчы ва ўсіх закавулках. Шпарка засунула сваю дзюбу,—смачна! Ад задавальнення яна міжвольна радасна закрычала. На яе крык прыбегла яшчэ адна курыца—рабая, квактуха. Яна заўсёды квокча, ніколі не наядаецца, і што-б яна не ўбачыла, усё прыходзіцца ёй па густу. Вось яна ўжо стаіць каля гарбуза і таксама суне туды сваю дзюбу. Чорнай курыцы гэта не падабаецца.

— Што ты тут робіш? Ко-ко-ко?..— злосна пытае яна.

— Ко-ко-ко, тое-ж, што і ты.

— Тое, што я?! Ко-ко-ко, я табе пакажу, тое, што я! Я гэта знайшла, значыць гэта маё, ко-ко-ко!

— Новая гаспадыня!—квакала рабая.— Гэта тваё, таксама, як і маё, ко-ко-ко!

— Ко-ко-ко, не, маё!



— Ко-ко-ко, а от і маё!

Першая з крыкам цягне гарбуз да сябе, другая са злосцю ірве да сябе. У адной крыллі ўзняты ўгару і ў другой крыллі ўзняты ўгару.

— Ко-ко-ко, агідная, ко-ко-ко, абжора!

— Ко-ко-ко, прагная, ко-ко-ко, зладзейка!

У абодвух выцягнуты шыі, грабенчыкі палымнеюць, а маленькія вочы гараць аганькамі злосці. Вось яны нацэльваюцца адна адной у самае балючае месца, у галаву, і ў маленькае бліскучае колца вока. «Ко-ко-ко!» Гатова, у адной вока няма! Толькі што яно яшчэ свяцілася чырвоным агеньчыкам, а зараз струменьчык крыві цячэ па пер'ях уніз і капае на зямлю. З крыкам кружыцца на месцы пабітая чорная курыца з выбітым вокам. Крык, кудахтанне, шум... Сабака зараз-жа з'явіўся тут. Ён—гаспадар двара.

— Гаў, гаў, гаў, што тут за шум? Што вы тут вытвараеце? Вайна! Крывяпраліцце!

Перш за ўсё ён разагнаў усіх курэй па сваіх месцах.—„Гультайкі вы, захоўвайце парадак!" Куры ціха-ціха сядзяць: хто пад лесніцай, хто пад ганкам, хто ў пуні.

Шарык абыходзіць навокал, як гаспадар усё аглядае, абнюхвае: раскіданае пер'е, пралітую кроў. „З-за чаго ўсё гэта адбылося?" Ён шукае, абнюхвае. „А, вось яно што! Вось прычына крывяпраліцця: згніўшы кавалак гарбуза. Падумаеш, якая страва! Толькі куры з іх курыным

розумам з-за такога глупства могуць біцца да крыві, на смерць“. Шарык упэўнен: калі-б не ён, дурныя куры не толькі выкалалі-б адна другой вочы, але пазабіваліся-б на смерць. Шчасце, што ён своечасова прышоў. Зараз ён будзе сядзець тут каля кавалка гарбуза і вартаваць, каб яны зноў не падыйшлі сюды.



І сядзіць Шарык на задніх лапках. Спяшыць яму няма куды. Зараз усё ў парадку. Толькі вось мухі садзяцца на нос, лезуць у вочы, у рот. „Хап!“ Ён ловіць іх ротам. Няхай ведаюць, з яго роту ім ужо не выйсці. З імі не жартуюць. З шарыкам жарты кароткія.

Але вось спяшаецца сюды свінка Чушка. Толькі што яна выкупалася ў бруднай лужыне. Смярдзючая вада яшчэ льецца з яе. Прыгожая, няма чаго казаць! Пасля лазні яна ідзе прагулянца. Гэта вельмі карысна. І апетыт з'яўляецца, калі пагуляеш. Апетыт—добрая справа. Чушка любіць паесці. Вось ляжыць кавалак гнілога гарбуза... «Хру-хру». Хап! Але калі Шарык пільнуе гэты гарбуз, Чушцы трэба было-б ведаць, як трымаць сябе...

— Гаў-гаў-гаў! — пагражае Шарык.— Пакладзі на месца!

— Хру-хру, гэта я вельмі люблю!



І Чушка закрывае свае маленькія вочы, вушы яе абвісаюць: яна робіць выгляд, нібы нічога і не чуе і не бачыць. Але Шарык хапае яе за адвіслае вуха і кусае і рве, як прынята ў сабак. Тады ўжо Чушка не можа маўчаць: яна вішчыць з усёй сілы. Але Шарык даўно ўжо меў злосць на Чушку і зараз ён рашыў раз назаўсёды правучыць яе. Няхай ведае Шарыка!

Чушка крычыць на весь двор. Паднялася мітусня. Выбегла нейкая цётка з палкай і пачала лупіць па спіне Шарыка. Тут ужо і Шарык завыў, а Чушка вызваліла сваё вуха і збегла, але яна доўга яшчэ вішчэла. Шарык таксама енчыў: «гаааў! гааў!» І ў думках лаяўся: «Такіх грубых істот, як гэтыя двуногія, няма больш ва ўсім свеце. Я іх вартую, я ўсёды гляджу за парадкам, а яны вось што за маю працу». Пакрыўджаны, пабіты, кульгаючы на адну нагу, ён пацягнуўся некуды ў куток.

Выкарыстаўшы мітусню, куры зноў сышліся. Прышла і чорная з выкалатым вокам. Ходзяць курачкі, шукаюць сабе корму. «Ко-ко-ко!»

А маленькі верабейчык скок да кавалка гарбуза. «Тут нешта смачнае!» Ногі ў яго тоненькія, як нітачкі, дзюба кароценькая. Але і ён хоча паласавацца.

Тут-жа на ганку сядзіць кошка. Хто ведае, што думае гэта хітрая кошка.



Можа, яна ўжо даўно сочыць за маленькай птушкай. А можа, яна толькі зараз убачыла, што тут можна пажывіцца. Як-бы там ні было, яна ўжо тут. У яе ціхія аксамітныя крокі і злавесна бліскучыя вочы. Кошка не чакае. Яна ведае: птушка не мышка, у яе ёсць крылцы. Раз-два і гатова—маленькая птушка трапечыцца ў яе лапах. Яна смяротна спалохана, але з зубоў кошкі яна ўжо больш ніколі не вырвецца.

Трашчаць тоненькія костачкі, усё скончана... Толькі некалькі мяккіх шэранькіх пёрышкаў засталося ад яе. Хутка вецер дзьмухне і панясе іх. І ўсё будзе ціха навокал...

# ЦУДОЎНЫ ГОРАД

*АЛЕСЬ ЖАЎРУК*
*і АНДРЭЙ УШАКОЎ*

*Рыс. Ж. ЗАБОРСКАГА*



Ў Маскве, ў зялёнай шыры—
Ажно не верыць зрок,—
Нібы ў казцы, вырас
Цудоўны гарадок.

Вакол квяцістых плацаў
Узняў палацы ён,
І кожны з тых палацаў
Завецца павільён.

Стаяць у тых палацах
Камбайны, трактары,
Наўкол налгаснай працы
Багатыя дары:

Цудоўныя расліны,
Дзівосныя плады,
З усіх канцоў краіны
Сабраныя сюды.

Да слаўных павільёнаў
Сабралася гасцей
З усіх акруг, раёнаў,
Краёў і абласцей.

Мы ўсе бязмежна шчасны—
І ты, і я, і ён:
Мы маем свой уласны
Дзіцячы павільён.

Прыходзьце да юннатаў,
І кожны будзе госць.
Цікавых экспанатаў
У нас нямала ёсць.

Таварышу Лысенко
Пісьмо я напісаў,
І мне з Масквы Лысенка
Ў пісьме зярно прыслаў.

Цяпер—не надзівіцца
З даследчай паласы:
Што ні сцябло пшаніцы—
Чатыры каласы.



А ў Зосі і ў Танюшкі
Трусоўнік—хоць куды!—
Ў іх зручныя кармушкі
І скрынка для вады.

Жыве там трусаматка
І папа трус жыве,
І дзеткі трусянятні,
Нямнога—сотні дзве.

А вунь па ўсіх кірунках
Ляжыць між ніў і гор
Сапраўдная чыгунка,
Вакзалы, семафор.

Сандро па мікрафону
Кіруе цягніком:
— Стоп!—і стаяць вагоны.
— Ход!—і бягуць бягом.

А Паўлам ганарыцца
Не дарма ўвесь раён—
Гатункаў, мабыць, трыццаць
Ўзрасціў на грушы ён.

Мічурынец Паўлуша
Гаворыць пра сябе:
— У нас вырастуць ігрушы
Ўжо хутка на вярбе.

А вось дамок вясёлы—
Над ім заўсёды гуд:
Разводзіць Алік пчолы
І мёд збірае тут.

І так усім, заўсёды—
Пчаляр ці садавод—
За працу—ўзнагарода
Салодкая, як мёд.

Усё тут, чым багаты
І слаўны родны край,
Прагледзець экспанаты
Не хопіць дня бадай.

Якія ў нас тут макі,
Якія кавуны,
Вучоныя сабакі,
Камбайны і млыны!

Выдатна паспявайце
Вучыцца вы ўвесь час
І самі прыязджайце
На выстаўку да нас.



# Іван Владзіміравіч Мічурын

Усе культурныя расліны паходзяць ад дзікіх продкаў. Асобнымі кусцікамі расла дзікая пшаніца. Яна была вельмі дробненькай. Зерняткі маленькія. Першабытныя людзі збіралі зерне і харчаваліся імі. Потым сталі сеяць. На пасеў кожны раз адбіралі лепшыя зёрны. Так, шляхам працяглага адбору, стварылася сучасная пшаніца з буйным зернем.

З дзікай яблыні, якая дае дробныя кіслыя плады, такім-жа шляхам былі створаны безлічныя сарты культурных яблынь з буйнымі, смачнымі яблыкамі. Тое-ж самае і з вінаградам, персікамі, вішнямі.

Але каб ператварыць дзікую расліну ў культурную, патрэбны былі стагоддзі.

Іван Владзіміравіч Мічурын усё сваё жыццё гаварыў, што нам няма чаго чакаць міласці ад прыроды, няма чаго чакаць сотні год, пакуль з'явіцца новы сорт расліны, трэба браць ад прыроды усё, што патрэбна чалавеку.

І ён указаў, як трэба браць.

Загляніце ў мічурынскі сад вясною. Тысячы дрэў у кветках. Цесна стаяць дрэвы і кусты. К канцу лета яны ўсеяны пладамі, якіх ніколі раней не было ў гэтых краях.

Горад Мічурынск знаходзіцца ў сярэдняй паласе Совецкага Саюза. Зімы тут лютыя. І вось пад адкрытым небам спеюць тут абрыкосы і слівы, чарэшні і дыні. Зялёнымі гроздзямі звісае вінаград. Самыя нежныя сарты груш і яблык, якія растуць толькі ў цёплых краях, наліваюцца тут, быццам-бы ў сябе на радзіме. Нават персікі выспяваюць тут. Пасадзіць персік у сярэдняй паласе Саюза— гэта ўсё роўна, што комнатную кветку вынесці на мароз. А ў Мічурына персікавыя дрэўцы не баяцца марозу.

Трэба цэлыя дні хадзіць па гэтаму саду, так многа тут розных раслін. Вось вішня— маленькі кусцік, а так густа пакрыт ягадамі, што няма куды пальцам ткнуць. Тут-жа маліна—кожная ягада больш галубінага яйца.

Усё гэта выгадаваў Мічурын.

Улада над раслінамі далася не адразу. Колькі было памылак! Колькі разоў прыходзілася ўсё пачынаць спачатку!

Мічурын працаваў адзінока, нікому непатрэбны ў царскай Расіі.

Совецкая ўлада ацаніла Мічурына. У 1922 г. Владзімір Ільіч Ленін затрэбаваў даклад аб Мічурынскіх работах. Мічурынскі пітомнік быў прызнан агульнадзяржаўным.

Захалусны гарадок Казлоў, перайменa-

ваны ў Мічурынск, стаў сусветным навуковым цэнтрам пладаводства.

Адзіночка-вопытнік, непрызнаны і асмеяны старой навукай і царскімі чыноўнікамі, стаў кіраўнікам і арганізатарам вялікай справы. Цяпер ён ужо не быў адзінокім. Яго акружалі дзесяткі таленавітых вучняў і памочнікаў. Яго расліны пачалі рассяляцца па ўсёй савецкай зямлі. Уся краіна ўважліва і любоўна сачыла за яго работай. У любой вёсцы, у любым калгасе імя Мічурына стала родным і блізкім.

Урад узнагародзіў Івана Уладзіміравіча ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Ён быў у ліку першых, хто атрымаў ордэн Леніна. Яму было прысвоена высокае званне заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі.

І гэты глыбокі ўжо стары адказаў краіне новымі доследамі, новымі сартамі выгадаваных ім пладовых дрэў.

Сваіх апошніх доследаў Іван Уладзіміравіч не скончыў. Яго даўно падсцерагала хвароба. Ён злёг.

Некалькі месяцаў цягнулася барацьба з хваробай. Іван Уладзіміравіч ірваўся да работы. Урад накіраваў да яго лепшых урачоў. Уся краіна з заміраннем сэрца сачыла па газетах—што з Мічурыным? Але годы і хвароба ўзялі сваё. 7 чэрвеня 1935 г. Мічурына не стала.

Работы Мічурына зрабілі пераварот у навуцы аб раслінах. Многія думаюць, што ўся заслуга Мічурына толькі ў тым, што ён стварыў больш 300 новых цудоўных сартоў пладоў і ягад. Гэта няверна. Яго галоўная заслуга ў тым, што ён стварыў метад перабудовы раслін, што ён паказаў, як трэба ствараць новыя расліны.

Цяпер чалавек можа кіраваць развіццём расліны па сваёй волі.





# Беларускі кавун



У нас на Цэнтральнай дзіцячай тэхнічнай станцыі многія юннаты робяць вопыты над паўднёвымі культурамі, імкнучыся вырасціць іх на палях Беларусі.

Мяне асабіста прывабіў чырвоны сакавіты кавун. Да гэтага часу кавуны ў нас не выспявалі. І вось я паставіла перад сабой мэту: вырасціць такія-ж смачныя і вялікія кавуны, як і украінскія.

Яшчэ ў красавіку мінулага года насенне кавуноў я пасадзіла ў невялікія вазоны ў цяпліцы. Праз некалькі дзён паказаліся невялікія зялёныя лісцікі, а яшчэ праз месяц яныператварыліся ў даволі вялікую плецы з свежымі цёмназялёнымі лісточкамі. У канцы мая месяца я ўжо перасадзіла маладую раслінку ў поле. Надвор'е к гэтаму часу было яшчэ дрэннае, і, каб расліны не прапалі, вакол кожнай з іх я зрабіла невялікія насыпы, якія завуцца „печкі".

Многа часу і ўвагі я аддавала маім кавунам. Мяне ўвесь час непакоіла адна







думка: „Няўжо ўся мая праца прападзе дарэмна?" Але вышла ўсё добра. У жніўні я зняла з майго ўчастка першыя чатыры кавуны. Яны амаль не ўступалі украінскаму кавуну. Праўда, яны былі не такія чырвоныя, як украінскія, але, па-мойму, былі больш сакавітыя. Гэтыя некалькі кавуноў я павезла ў Маскву на Ўсесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку. У верасні я зняла апошнія спелыя кавуны. Усяго я сабрала з майго маленькага вопытнага ўчастка 199 кг кавуноў.

У гэтым годзе я зноў вырошчваю кавуны. Яны ў мяне ўзышлі ў цяпліцы, а потым я высадзіла іх у поле. Спадзяюся атрымаць ураджай удвая больш мінулагодняга.

У гэтым годзе мой вопыт з кавунамі дэманстрыруецца на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы, у павільёне „Юннат".

Дзіфо Чэрняк.



# У лагеры

*Я. Журба*

Кветачкі сінія,
Як май, прыгожыя;

Вясной раджаліся,
Ў расе купаліся.

Усходзіць сонейка,
Заходзіць сонейка—

На сініх кветачках
Бы зоркі іскрацца.

Во пчолка звонкая
Хінецца к венчыку,

Салодкі мёд яна
Збірае з кветачак.

Во матылёк мільгнуў
Сняжынкай белаю;

Яму тут весела
Ў праменнях сонечных.

Прышла дзяўчыначка,
Прышла маленькая,

Зрывае кветачкі
Рукой рупліваю.

Галубіць кветачкі,
Галубіць сінія,

Хінецца вуснамі
Да пахкіх венчыкаў.

Яна вянок спляла
З прыгожых кветачак,

Пайшла па полю з ім,
Спявае песеньку:

„Кветачкі сінія,
Як май, прыгожыя;

Вясной раджаліся
Ў расе купаліся“...





# Лісічкін хлеб

**М. ПРЫШВІН**

Рыс. АСТАПОВІЧА

Аднаго разу я прахадзіў па лесе цэлы дзень і падвечар вярнуўся дадому з багатай здабычай. Зняў я з плеч цяжкую торбу і пачаў сваё дабро выкладваць на стол.

— Гэта што за птушка?—спытала Зіначка.

— Тарэнта,—адказаў я.

І расказаў ёй пра цецерука, як ён жыве ў лесе, як бармоча ў весну, як бярозавыя почкі клюе, ягадкі ўвосень у балотах збірае, узімку грэецца ад ветра пад снегам. Расказаў ёй таксама пра рабчыка, паказаў ёй, што шэранькі, з чубком, і пасвістаў у дудачку, як рабчык, і даў ёй пасвістаць. Яшчэ я высыпаў на стол многа грыбоў, і чырвоных, і чорных. Яшчэ ў мяне былі ў кішэні крывавыя ягады касцянкі, і галубыя чарніцы, і чырвоныя брусніцы. Яшчэ я прынёс з сабою пахучы камочак сасновай смалы, даў панюхаць дзяўчынцы і сказаў, што гэтай смолкай дрэвы лечацца.

— Хто-ж іх там лечыць?—спытала Зіначка.

— Самі лечацца,—адказаў я.—Прыдзе, бывае, паляўнічы, захочацца яму адпачыць, ён і ўтыркне сякеру ў дрэва і на сякеру торбу павесіць, а сам ляжа пад дрэвам. Паспіць, адпачне. Возьме з дрэва сякеру, торбу надзене, пойдзе. А з ранкі ад сякеры з дрэва пацячэ гэтая пахучая смолка і ранку гэтую зацягне.

Таксама для Зіначкі прынёс я розных цудоўных траў па лістку, па каліўцу, па кветачцы: зязюльчыны слёзкі, валяр'янка, пятроў крыж, зайцава капуста. І якраз пад зайцавай капустай ляжаў у мяне кусочак чорнага хлеба: са мной гэта заўсёды бывае, што калі не вазьму хлеба ў лес,—галадаю, а вазьму—забуду з'есці і назад прынясу. А Зіначка, як убачыла ў мяне пад зайцавай капустай чорны хлеб, так і абамлела:

— Адкуль-жа гэта ў лесе ўзяўся хлеб?

— Што-ж тут дзіўнага? Ёсць-жа там капуста...

— Зайцава...

— А хлеб лісічкін. Пакаштуй.

Асцярожна пакаштавала і пачала есці.

— Добры лісічкін хлеб!

І з'ела ўвесь мой чорны хлеб. Так і пайшло ў нас: Зіначка, капуля такая, часта і белага хлеба не бярэ, а як я з лесу лісічкін хлеб прынясу, з'есць яго ўвесь і пахваліць:

— Лісічкін хлеб куды лепшы за наш.



**М. ЦЭЛЕШ**

# ЛЯСНЫЯ ШУМЫ

*Рыс. В. ЦІХАНОВІЧА*

## Іллюковы вязкі

Хадзілі мы з Тарэнтам на цецерукоў. Вось, калі прайшлі адну мяккамохую баравінку і вышлі да хмурага чорналесся. Ласіныя закуты, Тарэнта мне і кажа:

— А зараз пойдзем у Іллюковы вязкі. Там глушца мабыць, узгонім.

Я згадзіўся, і спытаў:

— Якім гэта чынам мясцовасць магла атрымаць такую назву—Іллюковы вязкі?

— А пра гэта ў нас усе ведаюць,—ад-



казаў Тарэнта і расказаў мне, пакуль мы ішлі па дарозе сярод стройнага бору, вось гэту гісторыю.

* * *

Жыў у нашай мясцовасці пан і такі люты быў—ратунку няма! І быў у яго ляснік Антон—служака адданы: скажы пан у вір кінуцца—ён і гэта зробіць. Адным словам—падлізнік найлепшы.

Аднаго разу селяніну нашай вёскі Іллюку, працавітаму чалавеку, але занадта беднаму і вельмі баязліваму, спатрэбілася пара вязкоў на сані. Дзе ўзяць вязкі? А без іх ніяк нельга. Настане зіма, грыўні не заробіш на фунт солі без саней...

Думаў, думаў Іллюк, і, хоць і баязлівы, адважыўся пайсці за тымі вязкамі ў панскі лес. Там ёсць такія вязкі, што проста любата. І стаяць яны ўсю ноч перад вачыма чалавека, заснуць не можа.

На золаку ўзяў тапор пад крысо і пайшоў. Абышоў далёка кругом па балоце, каб ляснік Антон не ўбачыў.

Прышоў на месца, а рукі калоцяцца, тапор не ўтрымаць.

Урэшце выглядзеў два вязкі, адзін у

адзін, стаяць побач, як браты. Перажагнаўся Іллюк і давай сячы. Адзін сячэ памаленьку, каб не чутна было, а на другі пазірае: хаця-б ляснік не надышоў. Закатуе тады пан! Не будзе ні вязкоў, ні жыцця. Абдзяруць і самаго, як тую ліпку, ды яшчэ і ў халодную пасадзяць.

Толькі Іллюк ссек адзін вязок, за другі прыняўся, як раптам за яго спіной:

— Ага! Дык ты тут!?

Іллюк нават не аглянуўся: голас ляснікa зусім спаралiжаваў яго. Ён і тапор выпусціў з рук і сам павольна асеў на зямлю, хапіўся за грудзі; канцы, здаецца, чалавеку. Потым неяк ачуняў, раптоўна выпрастаўся, ды як жахне знізу ўверх тапаром гэтага самага лясніка. Той так і пакаціўся з рассечаным тварам.

Саслалі беднага Іллюка на катаргу, а пра лес гэты так і пачалі гаварыць: Іллюковы вязкі.

Але вось мы і дайшлі.

## Смелы драч

Хадзіў я за дупелямі. Балота, там-сям кусты алешніка, лазы. Такая спякота, што ўсё на мне, здаецца, аж гарыць. Ірма мая таксама стамілася, дзе там ёй да палявання: ідзе ззаду, высалапіўшы язык, ды толькі ахкае ад смагі.

Раптам, недалёка ад градкі альшэўніку, круць, вушы натапырыла і застыла на стойцы. Што тут можа быць у такім месцы? Ашалела ты, Ірма, на лягушку стойкі робіш? Наблізіўся, скамандаваў.

— Піль! Ну, піль!

А Ірма стаіць, як укапаная. Што яна там угледзела? Прыглядаюся і бачу, тырчыць са скошанай асакі цыбулькай галоўка нейкай птушкі, і дзве шрацінкі вочак глядзяць з страхам і здзіўленнем на сабаку. „То, мусіць, на гняздзе“,— падумаў я. Але бачу ўсю птушку; стаіць яна на зямлі сярод купінак і відаць яе зялёныя ножкі. Гэта драч, тая самая птушка, што ўвесну і ў пачатку лета «дзярэцца» стомленым голасам на сенажацях. І бачу— старая, а не маладая птушка. І так яна блізка ад сабакі і ад мяне, што мы маглі-б, здаецца, яе схапіць.



— Піль!—крычу я на сабаку.

Тая ткнулася моцна ў траву і зноў назад. «Тут нешта такое ёсць!»—думаю я і раблю крок да птушкі, бо мне ўжо надакучыла стаяць, „Смелая птушка!“—разважаю.

Раптам бачу ў гэты час плыве бясшумна нейкі цень па траве. Падымаю галаву. Каршун! Расправіўшы крыллі, ён вісіць у прасторы, як здань, і зоркім вокам сочыць за здабычай.

Тады мне стала ўсё зразумела: маленькая птушка драч, заўважыўшы драпежніка, шукала сховы ля чалавека! І я ўзяў сабаку на шворку і адвёў яе ад птушкі, папярэдне адагнаўшы стрэлам каршуна.

## Жартаўнікі

Надоечы вяртаўся з мястэчка наш дзед Міхал. Стары, а дзябёлы такі! Выпіў чарку, ідзе з дубовым кіёчкам і пацiху песню спявае.

Раптам бачыць ля самай сцежкі ў вялікую кучу мурашніку мядзведзь залез: яйкамі мурашак ласуецца, варушыцца там, і нічога не бачыць і не чуе. А мурашкі пякуць яго з усіх бакоў; мядзведзь мырчыць толькі ды кароценькім хвосцікам пакручвае.

— От я-ж цябе зараз пачастую,—рашыў пажартаваць дзед Міхал з мядзведзя.

І, не разважаючы аб выніках, падкраўся да звера, ды як пацягне яго сваім дубовым кіёчкам.

Што было далей, дзед не мог ужо бачыць. Мядзведзь так ірвануўся з мурашніка, што закідаў яго ўсяго мурашкамі. Прышлося дзеду паспешна выбіваць аб дрэва штаны і кашулю і выцягваць па адной з барады раз'юшаных мурашак.




*Х. Мальцінскі*
*Г. Шведзік*

Рыс. АСТАПОВІЧА

Аднаактная камедыя для дзяцей у 2-х сцэнах.

*Асобы:*

Віця—вучань 6-га класа (прыехаў з Мінска на канікулы).

Сёма—стрыечны Віцяў брат (вучань мясцовай школы).

Ната—важатая піонерскага звяна.

Коля, Міша, Ізя, Геня — удзельнікі квартэта.

Аркадзь Філіпавіч — настаўнік геаграфіі (прыехаў на адпачынак).

Дзея адбываецца летам у мястэчку.

## *Сцэна 1-я.*

Двор. Ната, Ізя, Міша, Коля і Геня рэпетыруюць «Квартэт» Крылова. Стаіць бязладны шум інструментаў. Грыміць барабан. Шум заглушае словы Мартышкі: «Чакай, браткі, чакай!» Музыка спыняецца.

Ната *(да Гені)*. Не, не, не! Ну, чаго гэта варта? Сама падумай: хіба-ж так іграюць малпу? Ты-ж праваліш нас на алімпіядзе...

Геня. Ну, добра, добра. Я буду больш крывіцца *(Дэкламіруе)*. «Чакай, браткі, чакай!» крычыць Мартышка.

Міша. Ой, што ты: «крычыць Мартышка»—гэта-ж словы аўтара. Іх-жа Ната павінна гаварыць!

Ната. І заўсёды ты забываешся. Што-ж гэта будзе, калі ты і на алімпіядзе скажаш словы аўтара?

Коля. Самую вялікую ролю іграе, а ўсё ёй мала. А я вось сяджу казёл-казлом. Ну і ролю-ж мне выбралі: мээ-э... мэ-э...

Ізя. Пачынаецца. Ён ужо плача. Вось і ў асла амаль няма слоў. А я маўчу, як той разумны асёл.

Ната. Цішэй, рэбяты, цішэй. Будзем рэпетыраваць. Геня—на скрыпцы, Коля—на басу, Міша—да барабана, Ізя—альт у рукі. *(Пачынаюць іграць.)*

Ната. Геня, цяпер ты ўжо залішне грымасьнічаеш!

Геня *(пакрыўджана)*. Ці крывіся, ці не крывіся—усё адно табе не падабаецца. Зусім не буду іграць. *(Выбягае.)*

Ната. Геня, Геня!..

Коля. Няхай бяжыць. Падумаеш, артыстка! Я буду іграць Мартышку.

Ната. Ой, і што-ж гэта будзе з нашым драмгуртком?! Зусім як у квартэце:
«Як, сябры, вы не садзіцеся,
А у музыкі не гадзіцеся».
І так салаўя ў нас нехапае, а цяпер і Мартышка ўцякла.

Міша. Мартышку то мы другую знойдзем. Гэта не бяда. Грымаснічаць

кожны ўмее. А вось салаўя дзе возьмем? Хто-ж у нас другі ўмее так залівацца салаўём, як Сёма?

Ната. Пра Сёму забудзьцеся. У яго пераэкзаменоўка па геаграфіі. А вучыцца не хоча. Канешне, шкада мне яго. Але-ж вінаваты ва ўсім ён сам. Я прашу яго: Сёмачка, вучыся, не падводзь ты нас *(ледзь не плача.)* Я табе памагаць буду. У мяне дома геаграфічная карта, глобус. *(Пауза.)* Што-ж гэта будзе з нашым квартэтам? А цяпер і Мартышкі няма...

Коля. Ведаеш што, Ната, у мяне прапанова.

Ізя. Ведаем тваю прапанову. Ты хочаш іграць Мартышку.

Коля. Не, не! Я буду іграць казла і... Мартышку. Мартышку іграю—тут сяджу. Казла іграю—туды перабягаю. Ёсць такія артысты.

Геня *(убягаючы)*. Я перадумала!

Коля. Няма чаго перадумваць! Ты ўцякла. Прапала!

Геня. Вось як! Дык знай-жа: я нікуды не пайду. Буду іграць.

Ната. Цішэй, рэбяты, цішэй. Геня—на скрыпцы, Коля—на басу. Міша—да барабана, Ізя—альт у рукі. Абвяшчай, Коля.

Коля. Драмгурток нашага фарпоста выступіць з інсцэніроўкай «Квартэта» Крылова.

Ната *(аўтар)*. Свавольніца-Мартышка,
Асёл,
Казёл
Ды касалапы Мішка
Надумалі сыграць квартэт.
Дасталі нот, баса, альта, дзве скрыпкі
І селі на лужок пад ліпкі
Дзівіць сваім мастацтвам свет.
Ударылі ў смычкі, стараюцца, як след,
А толку а ні крышкі...

Мартышка. Чакай, браткі, чакай!

Аўтар. Крычыць Мартышка.

Мартышка. Не выйдзе музыкі—хоць як-бы ні хацелі,
бо вы не так паселі!
Ты з басам, Мішка, сядзь супроць альта,
Я, прыма, сяду супроць вторы,
Тады ўжо пойдзе ўсё не так:
У нас заскачуць лес і горы.

Аўтар. Расселіся і пачалі квартэт. Ён усё-ж такі на лад не йдзе.

Асёл. Чакайце, я знайшоў сакрэт!
Напэўна мы паладзім,
Як радам сядзем.

Аўтар. Паслухалі Асла: паселі чынна ў рад. А ўсё-ж такі квартэт не йдзе на лад.
Вось зноў—каб даць якую раду—
Пайшлі у іх нарады,
Каму і як сядзець.
Аж здарылася салаўю на шум іх прыляцець. *(Пауза)*.

Ната *(уздыхнуўшы)*. А салаўя-то і няма.

Міша. Сёмачка, Сёмачка, не хочаш вучыцца.

Коля *(сумна спявае)*. Салавей-саловушка, буйная галовушка...

Усе *(таксама сумна)*. Ты звіні, звіні, звіні, гора разгані *(2 разы)*.

Міша. Ах, Сёмачка, Сёмачка...

Коля. Няма салаўя...

(Насвістваючы салаўём, убягае Сёма; з ім—Віця).

Сёма. Вось ён салавей. На шум ваш прыляцеў! *(Зноў свішча.)* А вось гэта Віця. Мой стрыечны брат. З Мінска прыехаў. Ух, які артыст! *(Шэптам.)* У Мінскім палацы піонераў выступаў. На ўсё лета прыехаў.

Ната. Дык можа твой стрыечны брат у нас сыграў-бы якую ролю?

Сёма. Калі вы мяне не прымаеце ў гурток, дык мой стрыечны брат у вас не будзе іграць. Праўда, Віця?

Віця *(не адказваючы брату)*. Якія п'есы вы ставіце?

Ната. «Квартэт».

Віця. А-а... Гэта-ж байка Крылова, якую вучаць у пятым класе. Але, калі вы так хочаце, я магу ўзяць у вас ролю.

Сёма. Без мяне? Брат ты мне ці не?

Віця *(салідным тонам.)* Але гледзячы, канешне, якую ролю вы мне дадзіце. Абы якую ролю я не вазьму.

Ната. Салаўя ты сыграў-бы? У нас няма Салаўя.

Віця. Я змог-бы... Але Сёма для гэтай

ролі болей падыходзіць. Я іграю драматычныя ролі.

Ната. Ведаеш што: ігрaй аўтара. Я штосьці не падыходжу для гэтай ролі. Тут патрэбен хлапец!

Міша. Вось гэта роля!..

Ізя. А колькі слоў!.. А грым які! Сівы парык, бакенбарды. Крылоў!

Сёма. Віця, брат ты мне ці не? Калі ты будзеш іграць, я з табою гаварыць не буду. Мяне-ж яны не бяруць.

Ната. Калі-б ты не ленаваўся рыхтавацца да асенніх іспытаў, мы цябе ўзялі-б. Але-ж ты толькі бегаеш цэлымі днямі. Разумееш, Віця, у яго пераэкзаменоўка па геаграфіі. А ў цябе што па геаграфіі?

Віця. У мяне, разумеецца, па ўсіх прадметах «выдатна».

Ізя. Ну ясна, ён-жа з Мінска.

Коля. У Мінску таксама ёсць дрэнныя вучні. Я чытаў у піонерскай газеце.

Міша. Па ўсіх прадметах «выдатна»! Дык у цябе-ж пахвальная грамата?

Віця. Так... хаця... не. Я зусім выпадкова атрымаў «добра» па алгебры. Але ў мяне ў гаду было «выдатна».

Ната. Але-ж па геаграфіі ў цябе «выдатна»?

Віця. Разумеецца.

Ната. Вось што, Віця. Калі-б ты памог Сёму падрыхтавацца па геаграфіі ды прымусіць яго ўзяцца за справу, ён мог-бы іграць салаўя.

Віця. З вялікай ахвотаю. Я не супроць. Да мяне заўсёды прымацоўваюць адсталых вучняў.

Ната. Возьмешся, Сёма, за работу?

Сёма. Ды ўжо-ж, вазьмуся. Толькі няхай хутчэй мяне навучыць.

Коля. Цяпер у нас заскачуць лес і горы! *(Сёма свішча салаўём, усе ўдзельнікі квартэта спяваюць, іграючы на інструментах):*

З кнігай дружылі,
Дружылі з пяром.
Цяпер мы іграем,
Танцуем, пяём.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтакай музыкай
Здзівім мы свет.
Будзеш выдатна
Вучыцца, дружок,
Прымем цябе мы
Ў вясёлы гурток.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтакай музыкай
Здзівім мы свет.



*Сцэна 2-я.*

(У лесе каля гамака сядзіць Віця. Ён перагортвае падручнік па геаграфіі).

Віця. Тоўстая кніга. Ох, якая праграма па геаграфіі! Увесь свет! Еўропа, Азія, Амерыка, Афрыка, Аўстралія і так далей і так далей... І няма чаго тут дзівіцца, што я атрымаў «дрэнна». Ну-ж і настаўніка знайшлі брату майму! Ха-ха-ха! Вось калі-б даведаліся... *(Чуваць свіст салаўя).*

Сёма *(здалёк).* Го-го-го! Віця, дзе ты?

Віця. Я тут. *(Убягае Сёма. Спявае):*

Я зімой вучыцца, вучыцца
Дужа не любіў.
А з сняжынак мяккіх, мяккіх
Чорцікаў ляпіў.

Гэй, гэй, гэй,
Сёма салавей!
Атрымаў работку, работку—
Увосень здаваць...
Дзе-ж тут мне да кніжкі—
Хочацца гуляць!
Гэй, гэй, гэй,
Сёма Салавей!
Я хачу ў артысты, ў артысты,
Цёхкаць салаўём.
Кажуць: гультаям мы
Ролі не даём.
Гэй, гэй, гэй,
Сёма Салавей!

Сёма. Ну, Віця, вучы мяне. Ды толькі хутчэй навучы.

Віця. Увесь год лынды біў, а цяпер ты адразу хочаш вучоным стаць. Разумнік ты. Вось я ўвесь год вучыў ды вучыў, і то, бывае, што не на ўсё адкажу. Скажы-ж ты мне, які клімат у Афрыцы?

Сёма. Ну, гэта вядома. Гарачы! Ведаеш, як там загараюць? Неграў бачыў?

Віця. Гарачы. Гэта ўсякі ведае. А вось, як ён называецца такі клімат? Запамятай: рэзка кан-ты-ментальны.

Сёма. Ну, добра. Запішу: клімат у Афрыцы рэзка кантынентальны.

Віця. Ха-ха-ха! Кантынентальны! Канты-мен... Чуеш? «мен»... Кантыментальны. Ад слова кантымент.

Сёма. А наш настаўнік кажа «кантынент».

Віця. Параўнаў. Вось наш настаўнік! Наш настаўнік выдатны. Ого, Аркадзь Філіпавіч! Ён кожнае лета прыязджае сюды на дачу. У гэтым годзе толькі нешта няма яго. Быў-бы ён— дык расказаў-бы табе, як я вучуся. Ну, добра, спытаюся я ў цябе пра жывёл. Дзе знаходзяцца жывёлы?

Сёма. Дзе? Усюды яны знаходзяцца.

Віця. Ну і адказ... Жывёлы знаходзяцца на паверхні зямлі. Чуеш?

Сёма. А крот?

Віця. Дай скончыць. Апрача, разумеецца, кратоў.

Сёма. А суслікі?

Віця. Дай-жа скончыць! І суслікаў.

Сёма. А птушкі ў паветры?..

Віця. Птушкі не жывёлы. Птушкі—гэта птушкі. Ды і не ў паветры яны жывуць, а толькі прагульваюцца крыху па небе. А жывуць яны ў гнёздах. А гнёзды дзе?

Сёма. На дрэвах.

Віця. А дрэвы дзе знаходзяцца?

Сёма. На зямлі.

Віця. Значыць?

Сёма. Значыць, жывёлы знаходзяцца на паверхні зямлі.

Віця. Правільна; гэтак-жа як і людзі. Вось я жыву ў Мінску на пятым паверсе. Што-ж скажаш, што я жыву ў паветры?

Сёма. Не.

Віця. Ну, дык запішы-ж: людзі, як і жывёлы і птушкі, знаходзяцца на паверхні зямлі. Апрача?

Сёма. Кратоў і суслікаў.

Віця. Запісаў? Цяпер пагаворым аб асобных відах жывёл. Ну, возьмем... скажам... напрыклад, малпу мартышку. Дзе яна знаходзіцца?

Сёма. Гэта то я ведаю. Мартышкі жывуць у густых лясах. Яны любяць скакаць з дрэва на дрэва.

Віця. Правільна. Якія лясы самыя густыя?

Сёма. Самы густы лес—гэта тайга.

Віця. Правільна. Запішы: малпы любяць знаходзіцца ў тайзе.

Сёма. Ой, Віця, першы раз аб гэтым чую!

Віця. Запісаў? Яшчэ пытанне.

Сёма. Віця, можа хопіць на сёння?

Віця. Не, не. Яшчэ пытанне. Скажы ты мне, у які акіян упадае скажам, напрыклад... ну, Каспійскае мора?

Сёма. Каспійскае? Здаецца, нікуды.

Віця. Ха-ха-ха! Нікуды. Пакажы карту... так... на гэтай карце не відаць. Гэта, мусіць, нейкая старая карта...

Сёма. Як-жа мне запісаць?

Віця. Запішы: Каспійскае мора ўпадае ў адзін з акіянаў.

Сёма *(запісваючы)*. Запытаюся ў Наты. Ты, здаецца, настаўнік, памыліўся. Ну, хопіць. Галава трашчыць. Пойдзем купацца.

Віця. У вашай рачулцы не купаюся. Вось у нас у Мінску рака! Берагу не відаць. Мора! Я неяк з прыяцелем

катаўся на байдарцы. Дык хваля нас як падкінула... Ух!..

Сёма. Дык не пойдзеш, настаўнік? А я пабег. *(Пайшоў.)*

Віця. Ух, замарыўся. Так, рознае «дрэнна» бывае. У мяне вось па геаграфіі «дрэнна», а ў Наты «выдатна». А хто з нас лепш ведае—гэта яшчэ пытанне. Пайшоў пытацца ў Наты. Ну і няхай. Можа я і памыліўся. Ды ў каго памылак не бывае? Я толькі перагортваю геаграфію—і «выдатна» атрымаю, разумеецца. І буду ў Палацы іграць самыя вялікія ролі. Ох, хто там ідзе? Да гэта-ж—Аркадзь Філіпавіч... Прыехаў-такі... А я... а я думаў... Схаваюся. Ён сюды ідзе... Уцяку!

Аркадзь Філіпавіч *(углядаючыся)*. Так, гэта-ж Віця! Чакай, Віця. *(Падыходзіць з гамаком.)*

Віця. Аркадзь Філіпавіч! Вы... значыцца... прыехалі.

Аркадзь Філіпавіч. Але, як бачыш. Я тут на дачы. І ты тут, з бацькамі?

Віця. Не, я адзін у цёткі.

Аркадзь Філіпавіч Ага... Ну, як з тваімі пераэкзаменоўкамі? Як з геаграфіяй?

Віця. З геаграфіяй у мяне справы ідуць на лад. У мяне тут стрыечны брат, Сёма. Ён добра ведае геаграфію. Толькі што з ім вучылі.

Аркадзь Філіпавіч. Гэта добра. Заходзь да мяне разам з тваім стрыечным братам. Я вам памагу. Ну, бывай, Віця. *(Выходзіць.)*

Віця. Бывайце. *(Уздыхае.)* Усё! Ні квартэта табе, ні ролі. Цяпер даведаюцца, які я выдатнік. Трэба зараз-жа ўзяцца за геаграфію. Увесь падручнік перачытаю. *(Мармыча.)* У параўнанні з іншымі часткамі свету, Еўропа невялікая. Па плошчы яна займае толькі 1/15 усёй сушы. Але ў Еўропе жыве 1/5 усяго чалавецтва. *(Пазяхае.)* Не лезе ў галаву... Як матэматыка. Адна пятнаццатая, адна пятая... Паляжу ў гамаку. *(Мармыча).* Няма квартэта, няма ролі... Бакенбарды... Асёл, казёл ды касалапы Мішка... пераэкзаменоўка... *(Засынае.)*

Сёма *(вярнуўшыся з рэчкі)*. Ш-ш-ш... Мой настаўнік геаграфіі спіць. *(Грозячы яму пальцам.)* А Каспійскае мора нікуды не ўпадае... Пайду рэбят паклічу. *(Выходзіць.)*

Віця спіць і сніць сон: іграе горн, б'е барабан... шум інструментаў. Уваходзіць Асёл. Вярхом на асле едзе Віця. За аслом—Мішка з барабанам, Мартышка са скрыпкай, Казёл з віаланчэллю.

Віця *(да асла)*. Цягнешся. Калі-ж мы на алімпіяду прыедзем? Хутчэй, Асёл! Паварачвайся! А вы, Казёл ды касалапы Мішка, ды ты, Мартышка! Чаго брынчыце? Хутчэй, Асёл! *(Б'е яго.)*

Асёл. Мяне біць? Далей—ні шагу.

Віця. Ды што ты, з глузду з'ехаў! Мы-ж на алімпіяду спознімся. У Палацы ўжо ўсе чакаюць мяне.

Асёл. Сказаў—не пайду!

Віця. Што-ж гэта будзе? Гэтулькі часу рыхтаваўся, а цяпер праз цябе, Асёл, не буду ўдзельнічаць...

Асёл. Не ведаеш ты майго характару. Я свайму слову гаспадар.

Казёл. Ты праўду кажаш. Хто ён такі, што яго везці трэба?

Віця. Як хто? Я аўтар. Без мяне квартэта не будзе.

Мартышка *(перадражніваючы)*. Я аўтар!.. Лгун ты, а не аўтар. *(Гаворыць да ўсіх.)* Вы ведаеце, што гэта аўтар пра мяне выдумаў? Што я жыву... ха-ха-ха!.. у Сібірскай тайзе!.. Каля полюса... ха-ха-ха!..

Мішка. Хо-хо-хо!..

Казёл. Хе-хе-хе!..

Асёл. Хі-хі-хі!..

Казёл. Так і відаць, што ў яго пераэкзаменоўка па геаграфіі.

Мішка. Я ўжо даўно здагадваўся, што ён не выдатнік.

Віця. Усе на мяне! І ты, Мішка!

Мішка. Я люблю праўду. Ты не выдатнік.

Мартышка. Такі лгун.

Асёл. А які гультай! Лішняга шагу не ступіць.

Казёл *(насмешліва)*. Аўтар!

Мартышка. Хадзем на алімпіяду без яго. Ён зганьбіць нас.

М і ш к а. У цябе пераэкзаменоўка. Не вучышся ты, не рыхтуешся.

В і ц я. Хто гэта вам сказаў?

У с е. Аркадзь Філіпавіч. Твой настаўнік геаграфіі.

М а р т ы ш к а. Асёл, скінь яго!

(Асёл скідае Віцю. Звяры знікаюць. Святлее. Чуваць свіст салаўя. Віця вываліўся з гамака. Праціраe вочы. Каля яго стаіць Сёма).

С ё м а. Сюды, рэбяты! Вось ён—мой настаўнік. *(Дзеці і Аркадзь Філіпавіч падыходзяць да Віці).*

Н а т а *(чытае з Сёмавага сшытка).* Клімат у Афрыцы рэзка канціментальны... У дужках: канціментальны ад слова канцімент...

У с е *(смяюцца).* Канціментальны... Канцімент... Ха-ха-ха!

Н а т а. *Ш-ш-ш...* Цішэй. Каспійскае мора ўпадае... Ха-ха-ха. Ох, не магу...

К о л я *(бярэ сшытак, чытае).* Каспійскае мора ўпадае ў адзін з акіянаў.

У с е *(смяюцца).* Вось дык географ! Выдатнік...

Н а т а. Цішэй, цішэй. Яшчэ адно вынаходства. Людзі, як і жывёлы і птушкі, жывуць на паверхні зямлі. Апрача кратоў і суслікаў. *(Смех.)*

К о л я. Вось дык вучоны... Вынаходстваў колькі!

Сёма. А мне ён хваліўся—быў-бы Аркадзь Філіпавіч, ён расказаў-бы, як я вучуся.

У с е. Раскажыце, Аркадзь Філіпавіч, раскажыце.

А р к а д з ь Ф і л і п а в і ч. Што-ж расказваць тут? Як ён геаграфію ведае, вы самі бачыце. А вось чаму ён дрэнна вучыцца, гэта я вам раскажу. На ўроках ён рэдка бываў, затое вельмі часта бегаў на рэпетыцыі... І ў школе, і ў палацы, і ў клубе нейкім выступаў. Гэта-ж праўда, Віця?

В і ц я. Праўда.

А р к а д з ь Ф і л і п а в і ч. А хочаш у гуртках выступаць—вучыся добра.

Н а т а. У нас пра гэта і песенька такая ёсць. Самі напісалі.

А р к а д з ь Ф і л і п а в і ч. Вось як! А ці не можна-б мне яе паслухаць?

У с е. Калі ласка.

З кнігай дружылі,
Дружылі з пяром.
Цяпер мы іграем,
Танцуем, пяём.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтакай музыкай
Здзівім мы свет.
Будзеш выдатна
Вучыцца, дружок,
Прымем цябе мы
Ў вясёлы гурток.
Вось дык квартэт,
Вось дык квартэт,
Гэтай музыкай
Здзівім мы свет.

К а н е ц



# САМАЕ ВЯЛІКАЕ

Рыс. БАР. СРЭЦЕНСКАГА





*Самы вялікі чалавек.* Сярэдні рост чалавека 160-170 сантыметраў. Рымскі вучоны Плініп, які жыў 1900 год таму назад, сустрэў араба па імені Габбара, ростам у 283 сантыметра.

*Самы вялікі самалёт.* На свяце авіяцыі ў 1939 годзе над Тушынскім аэрадромам паказаўся вялікі серабрысты самалёт. Яго вёў Герой Совецкага Саюза М. М. Громаў.

Гэтая новая совецкая машына—СССР Л-760—самы вялікі ў свеце сухапутны аэраплан. Размах яго крылляў ровен 63 метрам—вышыні 5-павярховага дома. Паміж калёсамі гэтай машыны можа праехаць грузавы аўтамабіль. Вага самалёта з пасажырамі і запасам гаручага 45 тон.

У гэтым «лётаючым доме» свабодна размяшчаюцца 64 пасажыры! Не гледзячы на сваю вялікую вагу і памеры, новы самалёт лёгка ўзлятае і хутка набірае вышыню.

*Самая вялікая глыбіня акіяна,* на якую апускаецца вадалаз у металічным панцыры, каля 200 метраў. Падводная лодка апускаецца на глыбіню ў 120 метраў. А самае глыбокае месца, знойдзенае ў акіяне,—9950 метраў.

*Самы вялікі глобус.* У датскім гарадку Сількебор на бульвары быў пабудован газгольдэр. Гэта—вялізны рэзервуар для хавання свяцільнага газа.

Такое збудаванне, зробленае са стальных прутоў, псавала выгляд бульвара. Гарадское ўпраўленне рашыла газгольдэр пафарбаваць. З прычыны таго, што ён меў форму шара, яго ператварылі ў вялізны глобус—нарысавалі на ім моры, акіяны, мацерыкі і астравы.

Зараз гэты газгольдэр—самы вялікі глобус у свеце. Ён вышэй трохпавярховага дому, мае 10 метраў у папярэчніку і ўмяшчае ў сабе 10 тысяч кубічных метраў сціснутага газа.

*Самае вялікае пісьмо.* Самае вялікае пісьмо было напісана на пергаменту. Яно мае 9 метраў даўжыні і 7 метраў шырыні і было паслана іранскім шахам турэцкаму султану Саліману Вялікаму, які жыў у VI веку.

Гэтае пісьмо знаходзіцца ў турэцкім дзяржаўным музеі.

*Самы вялікі сабака.* Адзін з жыхароў горада Альбані,







недалёка ад Нью-Іорка, уладае самай вялікай сабакай у свеце. Даўжыня гэтага пса-гіганта ад кончыка хваста да кончыка носа—2 метры 13 сантыметраў, вага—72 кілограма. Звачь-жа—Сенатар.

*Самы вялікі рак.* У амерыканскім музеі прыродазнаўства захоўваецца вялізны рак. Ён быў злоўлен каля берагоў Японіі. Велічыня рака—3 метра 60 сантыметраў. Кожная клешня гэтага марскога страшыдла—у рост чалавека.

*Самае высокае дрэва.* Эўкаліпт—самае высокае дрэва на зямным шары. Ён дасягае 152 метраў у вышыню і 10 метраў у дыяметры. Радзіма эўкаліпта—Аўстралія, Новая Зеландыя і Тасманія. Там дрэвы-веліканы ствараюць вечназялёныя гаі. Лісты ў эўкаліптаў пастаўлены рубам, і таму гаі ў поўдзень не даюць ценю. Драўніна эўкаліпта ўладае асобай цвёрдасцю і з'яўляецца вельмі моцнай; яна мацней дуба і чорнага арэха.

З соку дрэва робяць смачнае віно, з лісцяў эўкаліпта выціскаюць масла, якое ўжываецца ў медыцыне і ў парфюмернай прамысловасці.

Эўкаліпты незвычайна хутка растуць і высушваюць глебу. За здзіўляючую ўласцівасць асушваць сырыя, балоцістыя, малярыйныя нізіны эўкаліпт называюць антымалярыйным дрэвам.

На чорнаморскім узбярэжжы Каўказа пасаджана многа гэтых дрэў-веліканаў. Яны добра тут прыжываюць.

*Самы вялікі будынак.* Башня Эйфеля мае вышыню 300 метраў. Самы высокі Нью-Іоркскі небаскроб—407 метраў. Вышыня Дварца Советаў будзе роўна 416 метрам. Скульптура Леніна з нержавеючай сталі на Дварцы Советаў будзе мець 100 метраў у вышыню.

Па дакладу таварыша Молатава XVIII з'езд ВКП(б) пастанавіў закончыць у трэцяй пяцігодцы асноўныя будаўнічыя работы Дварца Советаў у Маскве. Гэта будзе самы вялікі будынак у свеце. 41000 наведвальнікаў змогуць адначасова размясціцца ў залах, кабінетах і аудыторыях Дварца Советаў. 55 гектараў—агульная плошча падлогі ва ўсіх памяшканнях Дварца Советаў. На плошчы падлогі магло-б размясціцца дзевяць маскоўскіх стадыёнаў «Дынамо».

100 метраў—такая вышыня самага галоўнага—Вялікага зала Дварца Советаў. У гэтым зале можна размясціць тры вялікіх маскоўскіх тэатры, паставіўшы іх адзін на другі. 350 000 тон сталі пойдзе на каркас Дварца Советаў. Калі з гэтай колькасці сталі зрабіць рэльсы, іх хапіла-б на 3 500 кілометраў шляху—пяць разоў можна было-б пракласці чыгуначны шлях ад Масквы да Ленінграда.

*Самая вялікая кветка.* У нью-іоркскім батанічным садзе ўдалося вырасціць самую вялікую ў свеце кветку. Яе назвалі—Гарганцюа.

Вышыня яе дасягае 2 метраў 56 сантыметраў. Пах у гэтай кветкі-гіганта такі моцны і непрыемны, што працаўнікі батанічнага саду абслугоўваюць яе ў процівагазах.

# САМАЕ МАЛЕНЬКАЕ



*Самы маленькі чалавек.* Быў вядом самы маленькі чалавек у свеце—карлік-араб Сілані Агібе, жыхар вёскі каля падножжа гары Сінай. Яго рост—37 сантыметраў, г. зн. тры чверткі роста ўноўнароджанага. Ён дажыў да 60 год.

*Гадзіннік-ліліпут.* На выстаўцы ў Стакгольме паказвалі незвычайны гадзіннік. Яго даўжыня каля 1,25 сантыметра, а шырыня менш 0,5 сантыметра.

Гадзіннік-ліліпуцік складаецца з 70 частак. Гэта ўзор майстэрства швейцарскага майстра гадзіннікавых спраў.

*Самая маленькая газета ў свеце.* У Мексіцы (Амерыка) выдаецца самая маленькая газета ў свеце пад назвай «Тэлеграма», а ў Англіі—«Літль Стандарт».

Абедзве газеты маюць размер у 7 сантыметраў даўжыні і 6 сантыметраў шырыні.

*Самы маленькі электраматор.* Ён пабудован швейцарскім канструктарам Хугуэнам. Аб велічыні яго можна меркаваць па рысунку, дзе паказан побач з звычайнай запалкай. Матор мае дыяметр 4,4 міліметра і складаецца з 48 частак. Некаторыя часткі плацінавыя, падшыпнікі рубінавыя.

*«Малютка».* Амерыканскі інжынер Конэт пабудаваў самую маленькую ў свеце падводную лодку. Даўжыня яе менш байдаркі, у шырыню яна мае ўсяго 60 сантыметраў. Нос яе разрысаван, як у рыбы—жабры, вочы і рот.

Унутры-ж гэта сапраўдная падводная лодка.

Экіпаж «малюткі» састаіць усяго толькі з яе ўладара.

Вынаходца зрабіў на сваім прагулачным караблі ўжо трыццаць паходаў і пагружаўся пад ваду на глыбіню да 9 метраў.



*Самая маленькая планета.* Мы прызвычаіліся думаць, што ўсе планеты вельмі вялікіх размераў. На самай справе гэта не заўсёды так. Ёсць планеты адносна зусім маленькія.

У канцы 1937 года была адкрыта планета Гермес, якая праходзіла тады блізка ад зямлі. Планета рухалася з вялікай хуткасцю. Вучоныя вылічылі яе дыяметр. Аказалася, што дыяметр Гермеса ровен усяго 400 метрам.




# Драпежныя рыбы

Рэбяты, якія жывёлы самыя драпежныя? Кожны з вас адкажа, што самымі драпежнымі жывёламі на зямлі лічацца тыгры, львы, ваўкі і другія звяры.



Але-ж жывёлы гэтыя, якія лічацца самымі смелымі і драпежнымі, рэдка кідаюцца на чалавека. На самай-жа справе цяжка адшукаць на зямлі больш лютых жывёл, чым некаторыя рыбы.

У рацэ Конго (Афрыка) водзіцца рыба, якая называецца рыба тыгр. Яна смела кідаецца на чалавека ў вадзе і хутка разрывае яго на часткі сваімі вялізнымі зубамі, больш падобнымі на зубы сапраўднага тыгра, чым на зубы рыбы.

У рэках Паўднёвай Афрыкі водзіцца другая рыба, значна меншых размераў, але яшчэ больш драпежная. Завуць яе—піранга.



Піранга важыць толькі некалькі кілаграмаў, але кідаецца на жывёлу і нават на людзей, якія апынуліся ў вадзе. Гэтая рыба ўладае выключна вострымі зубамі і вельмі моцнымі сківіцамі, дзейнічаючымі, як кусачкі для жалезнага дроту. Кроў ахвяры, якая распаўсюджваецца з месца укуса ў вадзе, у момант прываблівае вялікія стаі пірангі. Вада вакол быццам закіпае ад імклівых рухаў рыбы, якая снуе вакол здабычы. Хутка на гэтым месцы застаецца толькі змяшаная з вадой кроў, але рыбы яшчэ доўга імкнуцца сюды з усіх бакоў, і за адсутнасцю другой ежы, уступаюць у бой адна з другой, пажыраючы слабых.

У той час, як жывёлы сушы, якія лічацца самымі смелымі і драпежнымі, рэдка нападаюць на чалавека, драпежныя рыбы, асабліва вялікія, заўсёды кідаюцца на чалавека і нават на лодкі.



Напрыклад, акула кідаецца на сваю ахвяру да таго часу, пакуль зусім не выб'ецца з сіл у выніку страты крыві. Акула не адчувае ні болю, ні ўдараў. Спыніць акулу можна, толькі раніўшы мозг або сэрца.

Недалёка ад Фларыды і наогул у Мексіканскім заліве і Караібскім моры жыве баракуда—рыба, якая па словах маракоў, «спачатку кусае, а потым думае». Сапраўды, баракуда кідаецца на ўсё—на дрэва, на метал. Кавалкі дрэва даўжынёй з поўметра разлятаюцца ў яе зубах у адзін момант. У баракуды 148 зубоў, якія нагадваюць сабой сабачыя зубы, толькі трошкі танчэй.

Вось якія ёсць драпежныя рыбы.





Рыс. Колі Ермакова 13 год. Жлобінскі р-н.

## Нашы майстэрні

Прыгатуйце каробку размерам пабольш, без пярэдняй сценкі, вось такую, як нарысавана ў нас. Разрысуйце яе па свайму густу. Зверху напішыце „Цір“, затым у кожным аддзяленні да бакавых сценак наклейце па аднаму ўпору з выразаным трохвугольнікам для канца восі мішэні. А як зрабіць мішэні з драўляных палачак і кружка,




паказана на рысунку вельмі ясна. Кружкі выразайце з бляхі, фанеры або тоўстага картону. Нарысуйце на іх галовы звяроў, жывёлін, птушак, абвядзіце кожны кружок яркай лініяй і—мішэні гатовы. Устаўце іх у каробку і пачынайце страляць. А чым страляць?

У продажу ёсць многа цацачных гармат, ружжаў, пісталецікаў.



## *Адчаго бывае дождж і снег?*

*Пасля заходу сонца вельмі часта ў цёплы час года над рачнымі далінамі, лугамі, балотамі ўтвараецца туман. Туман прадстаўляе сабою маленькія кропелькі вады.*

*Воблакі—гэта той-жа туман, але які ўтварыўся не каля паверхні зямлі, а на некаторай вышыні.*

*Дождж звычайна выпадае з воблакаў, якія называюцца дажджавымі. Дробныя вадзяныя кропелькі, з якіх складаюцца воблакі, злучаючыся каміж сабою, становяцца настолькі буйнымі, што не могуць трымацца ў паветры і пачынаюць падаць на зямлю.*

*На сваім шляху гэтыя больш буйныя кропелькі, падаючы хутчэй дробных, наганяюць іх, зліваюцца з імі, становяцца яшчэ буйней. Яны падаюць на зямлю ў выглядзе дажджу.*

*Калі тэмпература паветра на вышыні воблакаў ніжэй нуля градусаў, вадзяныя пары ператвараюцца ў цвёрдыя крышталікі ільду, ператвараюцца ў сняжынкі.*









# Для ўмелых рук

Цацкі, якія вы бачыце на рысунках, можна зрабіць з тонкай фанеры або з картону. Потым іх можна расфарбаваць.

КУРАНЯТЫ. Калі трымаць рукой ніжнюю планку, а верхнюю перасоўваць, то кураняты будуць кляваць. Як сабраць цацку — відаць з рысунка. Усе часткі злучаюцца булаўкамі. Кармушку прыбіць да ніжняй планкі.

ПАПУГАЙ. Яго патрэбна выразаць па рысунку і ў прарэз у нагах уставіць зложаны трохвугольнікам кавалачак бляхі. Канец хваста, каб быў цяжэйшым, зрабіце ў тры слаі. Пастаўце папугая на край стала, штурхніце, ён доўга будзе качацца.

ВАЎЧОК. Кружок патрэбна выразаць вельмі дакладна. Палачку выстругаць з кавалка дрэва, лепш з бярозы.

Рэбяты! Прыдумайце самі падобныя цацкі.



Рэдактар А. Бяровкін. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 2562. 4 друк. арк. УЗ423.

